АВІЯЦЫЙНА-СПАРТЫЎНАЕ СВЯТА Ў ГОНАР 65-годдзя НАЦЫЯНАЛЬНАГА АЭРАКЛУБА БЕЛАРУСІ
Стар. 2.

Вольга ХАРКЕВІЧ, НАМЕСНІК ДЫРЭКТАРА НДІ АХОВЫ МАЦЯРЫНСТВА І ДЗЯЦІНСТВА, АБ ВЫНІКАХ АВАРЫІ НА ЧАЭС
Стар. 2.



ДАСЛЕДАВАННЕ ЎЗРОЎНЮ XXI СТАГОДДЗЯ: «Валерый МАРАКОЎ ЛЁС. ХРОНІКА. КАНТЭКСТ»
Стар. 4.

ЭКСПЕДЫЦЫЯ НА ПАЛЕССЕ
Стар. 4-5.



ПАЭТЫ ЭМІГРАЦЫІ: У ВЯНОК РОДНАГА СЛОВА

НАТАТКІ Яўгена ЛЕЦКІ «МОВА — ДУША НАРОДА»
Стар. 6-7.

МАРА Уладзіміра КАСЦЮКОВІЧА: НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ — ВАКОЛ СВЕТУ
Стар. 8.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

16 верасня 1999 года
Цана 20 000 рублёў

№ 37 (2647)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

СВЯТА ПІСЬМЕНСТВА



## НАД ПІНАЙ ЛУНАЛІ СОНЦА І РАДАСЦЬ

Пятага верасня ў Пінску свята заканчвалася на высокай урачыстай ноце. Так, як, дарэчы, і ўсюды. Але па традыцыі пачыналася яно ля кафедральнага сабора ў Мінску, дзе патрыяршы Экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт даў благаславенне на экспедыцыю "Дарога да святыняў з непагаснай лампадай Духоўнасці", у якой бралі ўдзел не толькі праваслаўныя святары, але і прадстаўнікі шырокай грамадскасці, людзі навукі і культуры. Шлях праходзіў па пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС раёнах, што надавала яму своеасаблівую шчымлівую адметнасць.

Што датычыць Пінска, то ён 5 верасня быў заліты не толькі не па пары шчодрым сонечным святлом і цяплом, але і радаснымі ўсмешкамі гасцей і мясцовага люду, які з'ехаўся сюды з усяго палескага наваколля.

Як хораша глядзяцца нашы людзі ў такія моманты нацыянальнага яднання і ўзрушэння! Асабліва дзяўчаты, славутыя палескія прыгажуні.

Гэта яны, напэўна, уплывалі на агульную атмасферу свята, на тое, што не толькі наш слаўны (родам таксама з палескага Давыд-Гарадка) паэт Леанід Дранько-Майсюк пры чытанні вершаў лавіў найлепшыя ў свеце кветкі — захопленыя дзявочыя позіркі, — але і людзі салідныя, якія па абавязку сваіх высокіх службовых пасад прыехалі сюды ў чорных касцюмах і гальштуках, раптам пазбавіліся чыноўніцкага іміджу ды звярнуліся да людзей на іх спрадвечнай беларускай мове. І, напэўна, нават у закаранелых скептыкаў штосьці здрыганулася ў зняверанай душы, калі яны з вуснаў першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Івана Пашкевіча пачулі перададзеныя ўдзельнікам святкавання словы Аляксандра Лукашэнкі: "Глыбока перакананы, што карані жыватворнага слова, роднай мовы не загінуць, што і надалей яны застануцца магутнай аб'яднальнай сілай беларускага народа.

Асабліва хачу звярнуцца да моладзі. Вы — будучыня нашай краіны, і ад таго, як вы будзеце захоўваць і памнажаць слаўныя духоўныя традыцыі мінулых пакаленняў, будзе залежаць лёс Бацькаўшчыны".

Ці гэта не кліч Адраджэння, звернуты ў XXI стагоддзе, напярэдадні якога мы стаім і ў якім, хочацца спадзявацца, будзем не ізгоямі цывілізаванага свету, а такімі, як і іншыя, што таксама маюць тысячагадовы шлях развіцця, сваю самабытную і багатую культуру, сваю высока шанаваную ад кіраўніка да простага працаўніка мову!

**Яўген ЛЕЦКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае прафесар Беларускай мастацкай акадэміі П. САНЧАНКА; у павільёне беларускай прэсы; тэатралізаванае прадстаўленне.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**





БІЗНЕС-КЛУБ

**ПРАЕКТ МФК "МАЛАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ" ПРАДСТАВІЎ СРОДКАМ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ НОВАГА КІРАЎНІКА — К. ДАГЕНХАРТА.**

Карл Дагенхарт (Karl Dagenhart) афіцыйна ўступіў на пасаду кіраўніка праекта МФК "Малая прыватызацыя ў Беларусі", які ажыццяўляецца ў рэспубліцы пры фінансавай падтрымцы Агентства ЗША па міжнароднаму развіццю, 1 ліпеня бягучага года. Да 1 жніўня ён таксама ўзначальваў праект МФК "Падтрымка прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі".

Карл Дагенхарт — грамадзянін ЗША, нарадзіўся ў 1958 годзе ў Кракаве (Польшча). Скончыў факультэт міжнародных адносін Маскоўскага інстытута міжнародных адносін, а таксама Магістратуру Дзяржаўнага універсітэта Сан-Францыска па праграме Master of Business Administration (магістр бізнес-кіравання). Мае 9-гадовы вопыт работы ў галіне маркетынгу, фінансаў, банкаўскай справы і міжнародных адносін, які набыў у ЗША і Францыі. Свабодна валодае рускай, англійскай, польскай, французскай і іспанскай мовамі. У снежні 1995 года ўзначальваў праект МФК "Падтрымка прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі", які ажыццяўляўся ў рэспубліцы пры фінансавай падтрымцы Брытанскага фонду Ноу-хау, і кіраваў ім да завяршэння праекта ў ліпені 1999 года.

Міжнародная фінансавая карпарацыя, якая ўваходзіла ў групу Сусветнага банка, была заснавана ў 1956 годзе. Асноўная дэкларыруемая мэта МФК — садзейнічаць эканамічнаму развіццю, ажыццяўляючы інвестыцыі ў прыватны сектар у краінах — членах МФК. Членамі МФК з'яўляюцца 174 краіны.

У лістападзе 1992 года Беларусь першай з рэспублік былога СССР уступіла ў МФК. МФК аказвае кансультацыйную і тэхнічную дапамогу мясцовым органам улады ў ажыццяўленні малой прыватызацыі. Беларусь — адна з саўладальнікаў Міжнароднай фінансавай карпарацыі, яе доля ва ўстаўным фондзе МФК эквівалентная 5,162 мільёна долараў ЗША.

З удзелам МФК у Беларусі прыватызавана пры дапамозе выкупу 133 структурныя падраздзяленні агульным коштам 6,7 мільёна долараў ЗША і прададзена на аўкцыёнах з выкарыстаннем метаду паніжэння пачатковага кошту 56 аб'ектаў агульным коштам 901 тысяча долараў ЗША.

### З ДУМКАЙ АБ ГАНОВЕРЫ

Брэстчына разам з іншымі абласцямі рыхтуецца прыняць удзел у сусветнай выставе "ЭКСПО-2000", якая пройдзе ў Гановеры.

Рознымі абласнымі службамі старанна рыхтуецца экспазіцыя рэгіёна. У ёй у раздзеле "Развіццё прадпрымальніцтва і канкурэнтная палітыка" будуць прадстаўлены дасягненні лепшых прадпрыемстваў малога і сярэдняга бізнесу.

СПОРТ

## ЛЕПШЫЯ Ў ЖНІЎНІ

Ні ў кога з 15 спартыўных журналістаў з 14 грамадска-палітычных газет краіны не было сумнення, што ў жніўні лепшай спартсменкай Беларусі павінна стаць алімпійская чэмпіёнка па акадэмічнаму весланню Кацярына Карстэн. У канцы мінулага месяца яна ўпэўнена перамагла на чэмпіянаце свету ў Канадзе. Дарэчы, журналісты назвалі Кацярыну Карстэн лепшай спартсменкай і ў ліпені.

У выбары лепшага спартсмена краіны сярод прадстаўнікоў неалімпійскіх відаў думкі журналістаў падзяліліся. Называліся прозвішчы чэмпіёна свету па тайландскаму боксу Аляксея Ігнашова, шахматыста Аляксея Фёдарава, віцэ-чэмпіёна Еўропы па водных лыжах Алега Дзевятоўскага, чэмпіёна Еўропы па армрэслінгу Радыёна Абрамава, уладальнікаў першага ў гісторыі Кубка Еўропы па шашках Анатоля Гантварга, Яўгена Ватуціна, Сяргея Насевіча і Аляксандра Булатава. Больш за ўсіх ачкоў набраў Аляксей Фёдараў.

* * *

З 20 па 22 жніўня праводзіліся спаборніцтвы на прыз Беларускага культурнага цэнтра Шальчынінкай, у якіх прымалі ўдзел каля 200 чалавек з Беларусі і Літвы. Ад Беларусі былі прадстаўнікі з Ліды, Воранава, Іўя, Ашмян. Ад Літвы — прадстаўнікі Вільні, Трокаў, Варэны і інш. Праводзіліся спаборніцтвы па стральбе, тэнісу, бегу, мнагабор'ю, падцягванню, кіданню гранаты, валейболу.

Першае месца заняў камісарыят горада Вільні, узнагарода — тэлевізар. Другое месца — прадстаўнікі з Ашмян, узнагарода — карціна.

Адкрываў мерапрыемства мэр горада. Ад Беларусі прысутнічалі кіраўнікі райвыканкамаў. На адкрыцці прысутнічаў консул Пасольства Беларусі ў Літве Віктар Аляксандраў. На закрыцці — саветнік Пасольства Віктар Гейсік.

**Пётр МАЛАФЕЙ.**

Літва, г. Шальчынінкай.

СТОП-КАДР



**У вёску Радуга Веткаўскага раёна на Гомельшчыне Віка ЗАГЛАДА заўжды едзе з задавальненнем. Тут усё ёй знаёмае з дзяцінства, нават певень і той рады сустрэчы. А галоўнае, вядома, бабуля, якой Віка дапамагае сабраць з агарода багаты ўраджай.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

# Вольга ХАРКЕВІЧ: «АБАВЯЗАК ДЗЯРЖАВЫ – КЛАПАЦІЦЦА ПРА ГЕНАФОНД НАЦЫІ»

*Аб выніках аварыі на ЧАЭС разважае намеснік дырэктара Навукова-даследчага інстытута аховы мацярынства і дзяцінства Вольга ХАРКЕВІЧ.*

Уплыў вынікаў чарнобыльскай катастрофы на арганізм цяжарнай жанчыны і дзіцяці вывучаўся ў Беларусі з 1992 па 1996 год у рамках рэалізацыі Дзяржаўнай комплекснай мэтавай навукова-тэхнічнай праграмы. На падставе праведзеных даследаванняў упершыню атрыманы прыярытэтныя даныя, назапашаны вялікі матэрыял аб сур'ёзных адхіленнях у здароўі цяжарных жанчын, маці і дзяцей ранняга ўзросту. Мноствам навуковых даследаванняў даказаны згубны ўплыў радыяцыі на арганізм цяжарнай і нованароджанага. Прычым малыя дозы пры працяглым уздзеянні на арганізм не саступаюць па свайму эфекту значным дозам апраменьвання, атрыманым за адзін раз.

У постчарнобыльскі перыяд значна ўзрасло захворванне цяжарных жанчын. У раёнах Гомельскай вобласці, якія пацярпелі ад радыяцыі, яно павялічылася ў пяць разоў. Павелічэнне паталогій цяжарных прывяло да змяншэння колькасці нармальных родаў. Летась неўскладненыя роды склалі 24,5 працэнта ад агульнай колькасці. У той час як у 1986 годзе ў адной трэці жанчын роды працякалі нармальна. Узрасла колькасць звяротаў мужа і жонкі з прычыны бясплоднасці (у памянёных раёнах у 5,5 раза). За апошнія 7 гадоў змяніліся прычыны, што прыводзяць да бясплоднасці. Больш чым у 6 разоў узрасла колькасць бясплодных шлюбаў па прычыне паталогіі ў мужчын і ў тры разы — у жанчын.

Нараджальнасць у рэспубліцы мае тэндэнцыю да зніжэння. Крытычным этапам пагаршэння дэмаграфічных паказчыкаў трэба лічыць 1993 год, калі ўпершыню смяротнасць перавысіла нараджальнасць. Да таго ж удзельная вага колькасці абортаў як аднаго з метадаў планавання сям'і ў нас працягвае заставацца вышэйшай за сярэднееўрапейскі ўзровень.

Пагаршэнне здароўя цяжарных жанчын і зніжэнне колькасці нармальных родаў абумовілі рост захворвання нованароджаных. Пасля 1986 года на ўсёй тэрыторыі рэспублікі павысіліся сярэднегадавыя тэмпы росту гэтага паказчыка. У Мінскай і Гомельскай абласцях — на 6,5 працэнта, у Магілёўскай — на 5,5. Самы высокі паказчык у мінулым годзе быў у Мінску: з 1 000 нованароджаных 311 з'явіліся на свет хворымі. Калі ў 1985 годзе ў сярэднім па рэспубліцы на 1 000 нованароджаных хворых было 78, у год, калі адбылася аварыя на ЧАЭС, — 85, то летась — 251 немаўля з 1 000 нарадзілася з сур'ёзнымі захворваннямі.

У структуры захворвання нованароджаных на першым месцы прыроджаная анамалія развіцця, г. зн. прыроджаная выродлівасць. Гэта звязана з захворваннем цяжарных жанчын і паталогіяй родаў.

Трэцяе месца ў структуры захворванняў немаўлят займае сіндром дыхальных расстройстваў. Гэта феноменальны паказчык, бо раней сіндром дыхальных расстройстваў сустракаўся толькі ў неданошаных нованароджаных. Гэта звязана з наяўнасцю біялагічнага рэчыва, якое адказвае за тое, каб лёгкія разраўнаваліся ў дзіцяці адразу пасля нараджэння. Сінтэз гэтага рэчыва якраз і прыгнятаецца радыяцыяй. Сёння не толькі неданошаныя, але і даношаныя дзеці нараджаюцца з гэтым сіндромам. Дзіця не можа паўнацэнна зрабіць першы ўдых і паўнацэнна дыхаць, таму што яшчэ ў чэраве маці ў яго гэтае рэчыва па тых ці іншых прычынах разбурылася.

І ўсё ж паказчык дзіцячай смяротнасці ў рэспубліцы знаходзіцца на сярэднееўрапейскім узроўні. Гэта звязана з паляпшэннем якасці медыцынскай дапамогі, а таксама з укараненнем новай тэхналогіі ў медыцыне. Аднак у Гомельскай і Брэсцкай абласцях ён быў значна вышэйшы за сярэдні па рэспубліцы.

Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што ў апошнія гады змянілася структура смяротнасці немаўлят, сярод прычын якой усё часцей прыроджаныя анамаліі развіцця. У 1998 годзе яны прэваліравалі ў Брэсцкай, Мінскай, Гродзенскай абласцях. Больш нізкі паказчык у Гомельскай вобласці тлумачыцца датэрміновым спыненнем цяжарнасці, дзе мела месца выродлівасць плода.

Асобую заклапочанасць выклікае прыкметнае зніжэнне імунітэту ва ўсіх узроставых групах дзіцячага насельніцтва. Выяўлена, што ў дзяцей, якія народжаны і пражываюць у раёнах, забруджаных радыенуклідамі, мяняецца клетачны імунітэт ужо на першым годзе жыцця. Ёсць вялікая група дзяцей з розных рэгіёнаў рэспублікі, якія пакутуюць на радыяцыйна абумоўлены сіндром набытага імунадэфіцыту. Прычым многія з іх набылі гэтую паталогію ў час унутрывантробнага развіцця. Прасочана выразная сувязь паміж функцыянальным станам імуннай сістэмы і радыяцыйнай абстаноўкай у раёнах пражывання немаўлят. Нярэдка нованароджаны атрымлівае дадатковую дозу радыяцыі з малаком маці, бо яно не можа быць лепшым за тыя прадукты, якія спажываюць жанчынай у ежу. Супрацоўнікі нашага інстытута правялі даследаванні біялагічнай каштоўнасці груднога малака ў кормячых жанчын і выявілі, што па ўтрыманню вітаміну С яно паўнацэннае толькі ў пяці працэнтаў абследаваных, а колькасць свінцу ў пробах груднога малака была ў 6, а ў некаторых выпадках і ў 10 разоў вышэйшая за дапушчальную. Нават у дзяцей, пераселеных з забруджаных раёнаў Гомельскай вобласці, праз 6 гадоў пасля катастрофы выяўлены змены імунных ахоўных сіл арганізма, што сведчыць аб працяглым захаванні парушэнняў у сістэме імунітэту.

Важна ўлічваць і адмоўны ўплыў радыенуклідаў на чалавека пры наяўнасці іншых забруджванняў у навакольным асяроддзі. Узаемасувязь выявілі супрацоўнікі нашага інстытута пры абследаванні дзіцячага насельніцтва горада Мазыра з яго нафтаперапрацоўчымі прадпрыемствамі. Такім чынам, сёння праблема ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС актуальная як ніколі.

Цяпер існуе шэраг розных мэтавых праграм, праектаў, фондаў, камітэтаў, звязаных з чарнобыльскай праблемай. Аднак у 1997 годзе было спынена фінансаванне праграмы "Ахова мацярынства і дзяцінства ва ўмовах уздзеяння вынікаў катастрофы на ЧАЭС". У рамках праграмы ажыццёўлена распрацоўка цэлага шэрагу новых метадаў абследавання, лячэння і прафілактыкі. Бо ва ўсіх краінах свету ахова мацярынства і дзяцінства з'яўляецца прыярытэтнай галіной развіцця аховы здароўя. Нягледзячы на недахоп сродкаў, пра гэта павінна паклапаціцца і наша дзяржава, бо размова ж ідзе пра захаванне генафонду нацыі.

АВІЯЦЫЯ

## НА КРЫЛАХ МАРЫ



Некалькі тысяч мінчан сабрала вераснёўскім нядзельным ранкам авіяцыйна-спартыўнае свята, якое праводзілася на лётным полі аэраклуба ў пасёлку Бараўкі. Гэта свята прысвячалася Дню Ваенна-Паветраных Сіл і 65-годдзю Нацыянальнага аэраклуба Беларусі.

Гледачам было прапанавана надзвычай цікавае відовішча. На гэты раз стартавалі семнаццаць тыпаў лятальных апаратаў, спартсмены прадэманстравалі масавы дэсант, парашутысты-акрабаты складалі ў небе цудоўныя фігуры. Стаіўшы дыханне гледачы сачылі за смельчакамі, якія раскрылі свае парашуты толькі за 150 метраў ад зямлі... Высокае майстэрства прадэманстравалі таксама планерысты і авіяканструктары. Скончылася ж амаль двухгадзінная праграма пілатажам рэактыўных самалётаў МІГ-29, СУ-27 і баявога верталёта МІ-24.

Свята атрымалася. Яно закранула і ўразіла ўсіх прысутных, і я ўпэўнена, што многія з гледачоў хацелі б таксама некалі зрабіць свой першы скачок, адчуць чароўнасць свабоднага палёту. Аказваецца, гэтая мара можа рэалізавацца. У аэраклубе вопытныя інструктары на працягу 2-3 гадзін правядзяць заняткі, і ў гэты ж дзень можна стаць сапраўдным парашутыстам!

Увогуле галоўнай задачай аэраклуба, па словах яго прэзідэнта Мікалая Мачанскага, з'яўляецца падрыхтоўка спартсменаў перш за ўсё парашутыстаў і авіямадэлістаў. А яны, дарэчы, на міжнародных спаборніцтвах заваёўваюць высокія ўзнагароды.

Акрамя таго, самалёты і верталёты аэраклуба служаць і іншым мэтам: на іх ажыццяўляецца лесапатруль, кантралюецца газаправод, часам гэтыя машыны выкарыстоўваюцца для экстраннай перавозкі хворых. На верталётах клуба праходзяць навучанне курсанты ваеннай акадэміі. Як аказалася, аптымізму прэзідэнту Нацыянальнага аэраклуба не займаць. Мікалай Мачанскі ўпэўнены, што ў хуткім часе ў аэраклубе будзе больш цікава, чым у любым парку адпачынку, і што ён стане месцам збору аматараў спорту і здаровага ладу жыцця.

Мы жадаем поспехаў супрацоўнікам Нацыянальнага аэраклуба Беларусі і шчыра віншуем іх з прафесійным святам!

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



**НА ЗДЫМКАХ:** у час свята; прэзідэнт Нацыянальнага аэраклуба Мікалай МАЧАНСКІ з пілотам рэактыўнага самалёта Альфрэдам КРАЎЧОНКАМ.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

ЗДАРЭННІ

## ЗАГАДКА НАРАЧАНСКАГА ВУГРА

Надзвычай гарачае беларускае лета стварыла ў гэтым годзе шмат праблем. Мала таго, што павыгаралі палі, лугі, абмялелі рэкі, самазагараліся тарфянікі, нярэдкімі былі лясныя пажары, дык і на жамчужыне сінявокай Беларусі — Нарачы бязлітаснае сонца нанесла ўдар. А, дакладней, па яе унікальнаму насельніку — вугру: прыбярэжныя хвалі выкідвалі на пясок дзесяткамі рэдкую і прыгожую рыбу.

З гэтай нагоды ўзнікла нямала розных чутак і домыслаў. Аднак у чым жа сапраўдная прычына такой незвычайнай для Нарачы з'явы?

Вучоныя і спецыялісты, заклікаfamы кантраляваць падобныя сітуацыі, гібель вугра тлумачаць высокай тэмпературай вады і бязветранасцю, якія сур'ёзна паўплывалі на гідрахімічны састаў вады. Такое становішча назіралася ў азёрах Баторына і Мястра. На думку вучоных, вугор з-за занадта высокай тэмпературы вады, раслін, якія гнілі, і недахопу кіслароду аслабеў і стаў даступным для розных хваробатворных арганізмаў. Адны з іх — "аэраманоз" і адыгралі для нарачанскага вугра ракавую ролю. Ён быў не ў сілах процістаяць прыбярэжнай хвалі, якая прыбівала рыбу да берага.

Падобная з'ява назіралася ў Беларусі ўпершыню, але раённыя ўлады, прыродаахоўныя службы прынялі ўсе неабходныя меры, каб аслабіць негатыўныя вынікі. Вучоныя лічаць, што драматызаваць сітуацыю не варта: пакуль гаворка ідзе пра гібель толькі некалькіх соцень вугроў.

Скончылася гарачыня, і пачаў мяняцца ў лепшы бок гідрахімічны састаў вады, станоўча ўплываючы на стан нарачанскіх азёр. Цяпер вучоным застаецца толькі старанна прааналізаваць атрыманыя даныя і даць навукова абгрунтаванае тлумачэнне нядаўняй гібелі нарачанскага вугра.

**Аляксандр ДЫННІКАЎ.**

## КАШТОЎНЫЯ ПАПЕРЫ Ў ВАЛЮЦЕ

У Нацыянальным банку Беларусі (НББ) распрацаваны праект дакумента, які рэгламентуе выпуск каштоўных папер, намініраваных у валюце для насельніцтва.

Згодна з праектам, гэта будуць каштоўныя паперы Нацбанка, па якіх будзе выплачвацца купонны даход. Чакаецца, што праект дакумента будзе разглежданы на бліжэйшым пасяджэнні праўлення Нацбанка.

Як растлумачылі ў НББ, выпуск для насельніцтва каштоўных папер у валюце плануецца з мэтай уцягнення ў абарот валютных зберажэнняў грамадзян. Па розных ацэнках, на руках у насельніцтва Беларусі знаходзіцца каля 2 мільярдаў долараў. У той жа час па стану на 1 ліпеня бягучага года ў банках Беларусі валютныя дэпазіты насельніцтва складалі 190,3 мільёна долараў. Іх аб'ём узрос за паўгоддзе на 24 мільёны.

У Міністэрстве фінансаў Беларусі таксама разглядаецца магчымасць выпуску дзяржаўных каштоўных папер у валюце, якія будуць прадавацца насельніцтву.

**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма", калектыў рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" выказваюць глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару газеты "Голас Радзімы" Наталлі Уладзіміраўне САЛУК у сувязі са смерцю БАЦЬКІ.**



ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# ДЗІК-КАРМІЦЕЛЬ

На званок у кватэру адказаў сабачы рык — гучны, папераджальны. Маўляў, хто вы такія? Потым пачуўся спакойны голас чалавека:

— Дзік, сціхні, гэта нашы сябры прыйшлі.

Дзік замаўчаў. Дзверы адчыніліся. І тут нас чакала яшчэ адно здзіўленне. У пярэднім пакоі побач з вялізным сабакам сядзелі два коцікі — беленькі і шэранькі. Было бачна: паміж імі і Дзікам — поўная згода, мір ды спакой.

Гаспадар кватэры працягваў супакойваць:

— Не бойцеся, Дзік вельмі паслухмяны, разумны.

Пра разумнасць ірландскага ваўкадава вагой больш як сто кілаграмаў гаспадар сабакі Пётр Сапега расказаў нам дзіўныя гісторыі. Аказалася, што Дзік у поўным сэнсе яго карміцель. І не толькі ў "пэўным", але і ў прамым.

— Я захварэў, — расказаў Пётр Дзмітрыевіч. — Інсульт. А працаваў тады на Поўначы. Будаваў Лангепас, як тады казалі, сімвал інтэрнацыянальнай дружбы з Расіяй. Горад гэты ўзводзілі беларусы на сваё сродкі.

Хвароба ёсць хвароба. Ды яшчэ такая — інсульт. Пётр Дзмітрыевіч быў ужо адзін: жонка пакінула. У Мінску ж засталася "забраніраваная" кватэра, у яе ён і вярнуўся.

А Дзік... Яго, шчанюка, падарылі "паўночныя людзі". Там і пачаў даглядаць свайго гаспадара.

— Аднойчы мне стала вельмі дрэнна, —успамінаў Пётр Дзмітрыевіч. — Думаю: "Што рабіць?" Звярнуўся да Дзіка: "Падай, родненькі, вады". І што вы думаеце? Той падсунуў крэсла да крана, які адкрыў зубамі, наліў у чайнік вады і падаў мне.

Я быў літаральна ашаломлены гэтым.

Далей — больш. Дзік пачаў тварыць сапраўдныя цуды. Даплёўся неяк Пётр Дзмітрыевіч да магазіна. Купіў прадуктаў. Дзік наглядаў, як гэта робіцца. Пётр Дзмітрыевіч пераканаўся, што яго чацвераногі сябра зразумеў "працэдуру". Дамовіўся з прадаўшчыцай, якая вельмі здзівілася "здольнасцям" ваўкадава. І гаспадар пачаў пасылаць сабаку па прадукты. Дзік прыносіў прадаўшчыцы запіску, грошы. Жанчына клала яму ў сумку патрэбнае — і сабака вяртаўся дахаты.

— Неяк угледзелі Дзіка алкаголікі, — згадаў Пётр Дзмітрыевіч. — Хацелі пажывіцца. Сунуліся да яго, але ж вы бачыце, які ён дужы, вялікі. Ды і не дурны, каб некаму паддацца. Карацей, адказ быў такі, што больш ніхто не асмельваўся да Дзіка нават блізка падыйсці.

Пётр Сапега расказаў і пра іншыя "чалавечыя" адносіны паміж ім, хворым чалавекам, і разумным сабакам Дзікам.



**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ФУТБОЛ

## ЛЕГІЯНЕРЫ ПРЫБЫЛІ НА ГУЛЬНІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЗБОРНАЙ

Нацыянальная зборная Рэспублікі Беларусь па футболу напярэдадні адборачных матчаў чэмпіянату Еўропы склікала мацнейшых беларускіх футбалістаў. Сярод іх Сяргей ГУРЭНКА, які іграе за футбольны клуб "Рома" (Італія), Андрэй ЛАЎРЫК (зараз выступае за маскоўскі "Лакаматыў"), Генадзь ТУМІЛОВІЧ, варатар зборнай Беларусі (абараняе вароты футбольнага клуба "Жамчужына" (Сочы, Расія), Пётр КАЧУРА — за "Шэфрылд Юнайтэд" (Англія).





**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**





АСОБА



**● Мікола САВІК,**

*член Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій.*

# ЗАХАВАЦЬ РАДАСЦЬ БЫЦЦЯ

## ЗДОЛЕЎ І Ў 75 ГАДОЎ

## *Аляксандр* ШЫРОКАЎ, *ВУЧОНЫ І ПАЭТ*

ПРЫВАБНАЯ кніга вершаў "Удивление" (на рускай мове) Аляксандра Шырокава ўзяла назву аднайменнага верша, які заслугоўвае таго, каб быць у зборніку першым. Паэт здзіўляецца, што радасць быцця захавалася ў ім з даўніх дзіцячых гадоў, што ацалеў на мінулай вайне. Яму цікава, як пастаўкі лунаюць у паднябессі, што адчуваюць яліны і "почему в волосах у красавиц кружатся метели". Увогуле, аўтара здзіўляе ўсё, што пакідае многіх іншых людзей абыякавымі, на што яны з-за паўсядзённасці не звяртаюць увагі.

Всё ещё удивляюсь
тому, что люблю,
что красу в некрасивых
открыть я умею,
что мгновенья удачи
без страха ловлю,
перед памятью павших
благоговею.

Вось з такіх годных, нязмушаных, шчырых радкоў складаецца паэтычная кніга. У ёй 130 вершаў разнастайнай тэматыкі. Вершы мілагучныя. Лёгка чытаюцца, глыбока ўспрымаюцца. Яны пісаліся ў першую чаргу для душы і прысвячаліся часцей за ўсё сябрам, блізкім.

Кніга — своеасаблівы лірычны падсуп да аўтабіяграфіі паэта, якая непарыўна звязана з жыццём краіны, лёсам народа. Адна з галоўных тэм вершаў навеяна мінулай вайною.

Успаміны пра вайну дамінуюць ва ўсёй творчасці паэта. Сімвалы, узрушаныя пачуцці ўзнікаюць пастаянна, нечакана. Праз дзесяцігоддзі, каторы раз прымушаюць перажыць драматызм сітуацыі і вялікі сэнс асабістага ўдзелу і змагання:

Как кровь моя
и подвиг скромный
помогут выстоять в борьбе
вдруг ставшей близкой
и огромной
моей страдалице земле.

Карціны дзяцінства, юнацтва, вясковага даваеннага жыцця (радзіма А. Шырокава — вёска Заатраг Вяцкай вобласці, дзе ён нарадзіўся 14 верасня 1924 года) паэт таленавіта падаў у вершы "Хочу домой...":

Где мир теперешний
не знал,
не понимал, как я богат:
почти ничем не обладая —
я был щедрее во сто крат.

Усё перакрэсліла вайна, якая ў расійскай глыбінцы пачыналася не з бамбардзіровак, прарэзлівага віскату бомб, аглушальных выбухаў і страляніны, як у Беларусі і як потым будзе пастаянна на фронце, а з трывожнага царкоўнага звону:

Я помню день,
когда в набаты
Хромой старик бил,
не устав,
когда солдаты и солдатки
вновь появились на устах.
Истошно бабы голосили,
вернув богов из небытья,
и этим криком известили
начало вдовьего житья.

Яшчэ ў 1943 годзе пасля паскоранага курса навучання ў вучылішчы зенітнай артылерыі ў Ніжнім Ноўгарадзе Аляксандр Шырокаў стаў афіцэрам, малодшым лейтэнантам. Пасля Перамогі прабыў у арміі і ваенных навучальных установах амаль чатыры дзесяцігоддзі.

З 1963 года жыццё А. Шырокава звязана з Беларуссю, дзе ён пачаў займацца навукова-педагагічнай дзейнасцю ў Мінскім вышэйшым інжынерным зенітным ракетным вучылішчы процiпаветранай абароны. На беларускай зямлі ён адбыўся як буйны вучоны, педагог, арганізатар, творца. На яго рахунку — напружаная і выніковая навуковая праца па тэорыі надзейнасці і эксплуатацыі складаных радыёэлектронных сістэм, метадах ацэнкі і забеспячэння іх якасці, дзесяткі навуковых артыкулаў, апаратна-праграмных распрацовак і комплексаў спецыяльнага прызначэння, шэраг вынаходстваў, апублікаваныя ў Маскве і Мінску манаграфіі, бліскучая абарона ў Маскве доктарскай дысертацыі.

У 1973 годзе А. Шырокаву надаецца званне прафесара. Адзін за другім абараняюцца яго вучні і становяцца спецыялістамі вышэйшай кваліфікацыі — кандыдатамі і дактарамі навук. За дасягненні ў навуцы і стварэнне складаных радыёэлектронных прыладаў і кібернетычных сістэм ён у 1975 годзе атрымлівае ганаровае званне заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі Беларусі. Яшчэ праз два гады ў вострай канкурэнцыі з іншымі вядомымі навукоўцамі абіраецца членам-карэспандэнтам Беларускай акадэміі навук. Інтэнсіўна працягваў даследаванні ў галіне вызначэння заканамернасцей эвалюцыі, геранталогіі складаных тэхнічных сістэм.

З 1980 года А. Шырокаў — прафесар Белдзяржуніверсітэта, загадчык кафедры і дэкан факультэта радыёфізікі і электронікі. Выходзяць з друку яго кніга "Асновы тэорыі камплектавання" (1987 год) і шэраг іншых навуковых прац.

У 1990 годзе няўрымслівы А. Шырокаў заснаваў пры Белдзяржуніверсітэце інстытут сучасных ведаў, які з 1993 года стаў самастойным інстытутам, першай у Беларусі недзяржаўнай вышэйшай навучальнай установай. Тое, што ён арганізаваў і стаў рэктарам гэтай ВНУ, лічу вяршыняй яго педагагічнай дзейнасці, найадказнейшым крокам у жыцці. Бо адважыцца на яго можа толькі вопытны, мудры і рашучы педагог, вучоны, арганізатар. Гэтыя якасці ўласцівыя А. Шырокаву. У інстытуце ўкараняюцца новыя інфармацыйныя навучальныя тэхналогіі на базе сучасных сродкаў вылічальнай тэхнікі, аперацыйных сістэм і праграмных комплексаў па розных галінах ведаў. Функцыянуюць дзесяць факультэтаў, у тым ліку гуманітарны і мастацтва, філіялы ў Брэсце, Віцебску, Гродне.

ВЕРНЕМСЯ, аднак, зноў да паэзіі. Чытач, напэўна, пераканаўся, што насычанае падзеямі жыццё і здабыткі ў розных сферах інтэлектуальнай дзейнасці ўяўляць невычэрпную крыніцу творчасці паэта. Другой па важнасці тэмай, па вызначэнні аўтара, з'яўляецца каханне:

Вторую песнь
я о любви пою,
Как о начале,
как о продолженье...
Я по любви и жизнь
свою крою
другим и самому
на удивленье.

Лірычныя споведзі А. Шырокава — часцей за ўсё маналогі-развагі з сабою, звароты да выбранніцы, каханай. Але для яго лірычнага героя характэрнае не захопленае пачуццё юнака, а больш ураўнаважаныя, больш глыбокія эмоцыі. Аўтар знаходзіць небанальныя вобразы і дэталі, арыгінальныя, свежыя думкі і параўнанні.

Запамінальныя радкі, у якіх паэт выказвае падзяку і павагу да сваіх бацькоў, іх маральна-этычных запаветаў (вершы "Матери", "Гордость", "Отцовское слово"). З якой цеплынёй, пяшчотай і адначасова вялікім спачуваннем звяртаецца ён да маці з яе сціплай сялянскай доляй. Сваім бацькам аўтар ганарыўся з дзяцінства. І за тое, што кавалём працаваў, эскадроны ў атаку вадзіў, што ведаў яго Варшыла, і за тое,

Как умел
он добрейшим быть,
Как умел иногда уступать,
очень нежно детей любить,
стариков от души уважать.
Можно много
о нём сказать —
я отца не могу не любить.
Дважды был приговор:
"Расстрелять!",
дважды он оставался жить.

А. Шырокаў усё жыццё помніць бацькоўскія словы аб працавітасці, дабрыні, сумленнасці, абароне слабых і жанчын. Да матыву бескарыслівасці паэт звяртаецца неаднаразова.

А. Шырокаў верыць у важнае прадвызначэнне паэзіі. Яна святое, высокае і вечнае. Не пагадзіцца з ім немагчыма, так пераканаўча і доказна гучаць яго словы.

А в стихах —
невозможно солгать,
Как нельзя быть весёлым
на тризне...
Как поэзия
Жизни под стать,
Так и правда
в поэзии жизни.

У зборніку частыя філасофскія развагі на ўзроўні афарызмаў аб шчасці, непрыманні здрады, подласці, аб карысці духоўных каштоўнасцей, сэнсе чалавечага існавання.

А. Шырокаў усюды, дзе б ні працаваў, пакінуў важкі след сваіх спраў. Спадзяюся, што яго мара "вот так и я живу пока мечтой — оставить след заветною строкой" спраўдзіцца таксама. Для гэтага раю прачытаць яго вершы, каб думаць і перажываць разам з ім, захопленым і мудрым чалавекам, якога Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы ўключыў у лік 2 000 лепшых людзей свету XX стагоддзя.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# МОВА — ДУША НАРОДА

● **Яўген ЛЕЦКА**, *кандыдат філалагічных навук.*

Нядаўна адбыўся VI з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. На гэтым форуме вялася зацікаўленая, месцамі вельмі вострая гаворка пра стан асноўнага паказчыка духоўнасці народа, пра задачы грамадскага аб'яднання на сучасным этапе развіцця. Зразумела, "Голас Радзімы" не можа абысці такой падзеі: мова — гэта тое, што яднае нацыю, дазваляе ўсім расцярушаным па свеце беларусам адчуваць роднасць паміж сабой, заставацца самімі сабой, мець паразуменне ў агульнай супольнасці незалежна ад таго, дзе яны жывуць. Калі ж страцяць мову — стануць напалову нямымі і глухімі, бо не здолеюць без пасрэднікаў паразумецца між сабою.

На гэты раз ад замежжа на з'ездзе былі толькі прадстаўнікі з Санкт-Пецярбурга — старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Валянцін Грыцкевіч і сябра Рады, пісьменнік Анатоль Кірвель. Першы выступіў з грунтоўнай і яркай прамовай, быў сустрэты і праведзены з трыбуны дружнымі воплескамі прысутных. Бо гаварыў, выказваў трывогу пра самае набалелае і трывожнае для кожнага свядомага беларуса: лёс дзяржавы, народа, яго культуры і мовы.

Аднак адзін голас, няхай сабе эмацыянальна ўзрушаны і сэнсава глыбокі, — гэта яшчэ не ўсё замежжа. Таму і вырашылі асвятліць надзённую праблему захавання мовы як у самой Беларусі, так і ў беларускім замежным асяроддзі пачуццём і думкай вядомых паэтаў, грамадскіх дзеячаў, якія жывуць гэтым увесь час, а таму іх слова, выказанае ў розныя гады, не страціла актуальнасці і для нашых дзён. Бо праблема захавання і адстойвання мовы для беларусаў — да балючасці важная.

Трэба сказаць, беларусы, што гуртуюцца ў нацыянальных суполках далёкага замежжа, добра ведаюць пра сваю этнічную прыналежнасць і размаўляюць на жывой і натуральнай мове. Аднак і сярод іх вылучаюцца беларускія паэты на эміграцыі, якія жылі і пісалі зусім у іншых умовах, далёкіх ад цяплічнага шанавання ўсіх, хто паслухмяна праводзіў палітыку партыі і ўрада ў савецкай Беларусі. Ім, паэтам на выгнанні, ніхто не плаціў ганарараў за напісанае — наадварот, трэба было дзесьці здабыць немалыя грошы, каб выдаць уласную кнігу. І здабывалі, прычым не ў добрага дзядзькі Сэма, а працай уласных мазолістых беларускіх рук. У якасці прыкладу спашлюся на Янку Золака (Антона Даніловіча). Увесь пасляваенны час працаваў простым рабочым на заводзе. Зарабляў прыстойна, можна было жыць, як кажуць, і не мець клопату. Але адкладваў з заробкаў грошы на набыццё ўласнай друкарні. І набыў. Асвоіў увесь тэхналагічны працэс — сам выступаў аднначасова ў ролі і аўтара, і рэдактара, і карэктара, і наборшчыка, і вярстальшчыка, і друкара. А тады ж, трыццаць гадоў назад, такой, як цяпер, друкарскай тэхнікі не было, усё даводзілася рабіць уручную. Упартасць і кемлівасць перамаглі, і ў выніку з'явіўся прыстойна выдадзены двухтомнік.

Ёсць у Амерыцы і яшчэ адзін, не менш уражлівы прыклад, калі па ўласнай ініцыятыве, у вольны ад асноўнай працы час, чалавек выдаваў падрыхтаваныя Беларускім інстытутам навукі і літаратуры ў Нью-Йорку салідныя, у цвёрдых каляровых вокладках, з цісненнем тамы выбраных твораў лепшых эміграцыйных паэтаў. Не ведаю, ці захавалася да нашых дзён, але дзесяць гадоў назад, калі я быў у Міколы Прускага, то бачыў тое друкарскае абсталяванне. Яно ўжо састарэла тэхналагічна і маральна. Мікола якраз тады набыў новае, сучаснае, дзе асноўную працу выконвае не чалавек, а электроніка, але ручныя друкарскія варштаты, мяркую, мелі і маюць не меншую вартасць як гістарычныя экспанаты. І я намаўляў гаспадара захаваць гэтыя унікальныя рэчы. Бо ці ж не былі б яны акрасай у створаным у Полацку музеі беларускага кнігадрукавання?!

Вось прыклад таго, як трэба шанаваць мову, прыклад не паказнога, не крыклівага, а бескарыслівага патрыятызму! Таму мы палічылі патрэбным даць слова вядомым прадстаўнікам далёкага замежжа. Сваё стаўленне да мовы яны выказваюць як у паэтычнай, так і публіцыстычнай форме. Вершы беларускіх паэтаў напісаны ў розны час і ў розных краінах, яны адрозніваюцца між сабой манерай, формай і стылем аўтараў, але ва ўсіх іх захоўваецца адзінства нацыянальнай ідэі, погляду на мову як з'яву духоўную, якая ўвасабляе для чалавека штосьці незаменнае, святое, тое, што застаецца актуальным на ўсе часы для кожнага свядомага беларуса.

Вершы ўзяты з грунтоўнага анталагічнага тома паэзіі беларускай эміграцыі "Туга па Радзіме", у свой час складзенага і выдадзенага, дзякуючы клопату і руплівасці светлай памяці Барыса Сачанкі. З гэтай жа кнігі запазычаны намі і некаторыя біяграфічныя звесткі пра жыццё і творчасць паэтаў. Імкнуўся я даваць нататкі як мага больш сцісла, у многіх выпадках стрымліваць свае асабістыя пачуцці. Бо з некаторымі аўтарамі давялося сустракацца як падчас іх прыездаў на радзіму, так і ў краінах цяперашняга пражывання. Пашчасціла (ці не апошняму з Беларусі) сустрэцца з легендай нашай літаратуры — Наталляй Арсенневай. Быў у складзе групы, што здымала тэлевізійны фільм пра беларусаў Амерыкі. Апекаваўся намі старшыня кліўлендскага аддзела БАЗа (Беларуска-Амерыканскага задзіночання) Янка Ханенка. Да спадарыні Наталлі прыехалі празрыстым жнівеньскім днём. Вядома,



Янка ЗОЛАК з праўнукам у родных Лучніках.

# ПАЭТЫ ЭМІГРАЦЫІ: У ВЯНОК РОДНАГА СЛОВА

**НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА** *нарадзілася 20 верасня 1903 года ў Баку. Па нацыянальнасці руская. З яе роду паходзіць па жаночай лініі славуты паэт Міхаіл Лермантаў. Бацькі адразу ж пасля нараджэння дачкі пераехалі ў Вільню, дзе на той час сапраўды панаваў беларускі дух.*

*Будучая паэтка скончыла Віленскую беларускую гімназію. Пасля злучэння Заходняй Беларусі з Усходняй была рэпрэсіравана па абвінавачванні ў нацыяналізме і выслана ў Казахстан. Аднак па просьбе Саюза пісьменнікаў Беларусі, а найперш Максіма Танка, сябра Н. Арсенневай, вернута на радзіму.*

*У 1944 годзе выехала ў Нямеччыну, а потым у ЗША, дзе жыла з сынам Уладзімірам у самоце, у аддаленасці ад беларускіх асяродкаў. Памерла ў 1998 годзе на парозе свайго 95-годдзя. Аўтар некалькіх паэтычных кніг і тома выбранага. У 1992 годзе ў выдавецтве "Бацькаўшчына" факсімільна выдадзены першы зборнік Арсенневай "Пад сінім небам", у 1996 годзе ў "Мастацкай літаратуры" выйшла кніга выбраных вершаў "Яшчэ адна вясна". На Беларусі і ў эміграцыі найбольш вядомы верш "Малітва", які пакладзены кампазітарам Міколам Равенскім на музыку і выконваецца ў эміграцыйных хрысціянскіх святынях у якасці рэлігійнага гімна пад назвай "Магутны Божа".*

## МАЛІТВА

Магутны Божа! Ўладар сусветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменне Свае хвалы.
Дай спор у працы будзённай, шэрай,
на хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласць — дай!
Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот,
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу і наш народ!

**АЛЕСЬ САЛАВЕЙ** *(Альфрэд Радзюк) нарадзіўся 1 мая 1922 года ў вёсцы Крысава на Койданаўшчыне. У 1937-м яго бацьку і маці арыштавалі. Засталося трое дзяцей, старэйшым быў Альфрэд.*

*Вучыўся ў Койданаўскай беларускай сярэдняй школе разам з будучым першаадкрывальнікам беларускай мінуўшчыны Мікалаем Ермаловічам, але на клас ніжэй, а з паэтам Міколам Аўрамчыкам — у Мінскім педтэхнікуме. Потым працаваў у лагойскай раённай газеце.*

*Вершы пачаў пісаць з дзяцінства. Актыўна друкаваўся ў перыядычных выданнях.*

*На эміграцыі спачатку жыў у Аўстрыі, потым пераехаў у Аўстралію ў Мельбурн, дзе ў 1978 годзе і памёр. Пры жыцці выдаў усяго тры кнігі паэзіі. Найбольш поўным з'яўляецца том выбранай паэзіі "Нятуская краса", выдадзены ў 1982 годзе Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Йорк — Мельбурн).*

## СМУТЛІВАЯ МАЦІ

Адарвалі, схапілі, сілком павялі.
Зледзянелыя хмары. І водгулле грому.
Ці жыве на далёкай зямлі?
І ці прыйдзе дадому?

І начамі, і днямі — з відна да цямна —
чорны жах у сваволлі нявінных лякае...
І смутлівая ходзіць Яна —
сына, сына шукае.

А па промені сонца — па нітцы даўгой —
аганькамі сцякае аблокаў ільдзіна.
— Як знайсці? Як пабачыць Яго?
Дзе зняволілі сына? —

— Замолчать! — ...І на твары маршчыны зляглі.
Горыч слёзаў... Пра болесць — нідзе і нікому?
Ці жыве на далёкай зямлі?
І ці прыйдзе дадому?

І здаецца стагоддзем часіна адна.
Без канца павучыну правосень сукае...
У сваволлі крывавым Яна
плача — сына шукае.

**МАСЕЙ СЯДНЁЎ** *— адзін з самых прыкметных пісьменнікаў. Выступае ў паэзіі, прозе і публіцыстыцы.*

*Нарадзіўся 1 верасня 1913 года ў вёсцы Мокрае Касцюковіцкага раёна. Вучыўся, як і Аркадзь Куляшоў, у Саматэвіцкай сямігодцы, а потым у Мсціслаўскім педтэхнікуме і ў Мінскім педінстытуце. У 1936 годзе арыштаваны і высланы ў лагер на Калыму. Напярэдадні вайны быў дастаўлены ў Мінск на перасуд. З прыходам немцаў трапіў на волю. Перажыў шмат драматычных падзей і ўрэшце апынуўся ў ЗША, дзе жыве і цяпер непадалёку ад Нью-Йорка ў горадзе Глен Коў. Некалькі разоў прыязджаў на Беларусь.*

*Вершы пачаў пісаць у школе, друкаваўся ў перыядычных выданнях, што выходзілі ў той час на Беларусі. Больш дзесятка кніг з'явіліся на эміграцыі, а на Бацькаўшчыне — "Патушаныя зоры" (паэзія), "Масеева кніга" (публіцыстыка), "Раман Корзюк" (проза).*

## З НАРОДНАГА ЛАДУ

***(Вяселле)***

Пры смяху і жарце
спірт-гарэлку жарце!

Хай пячэ і шчыміць
бабе і мужчыне.

Пусціліся ў скокі
бабы, як сарокі.

Выбірай, каторую
хочаш катэгорыю:
тонкую хіслявую,
моцную ці млявую.

Блісне як зарніцаю
іншая спадніцаю.

Адна вабіць песнямі,
а другая — персямі.

— Вы, мужчыны, не глядзіце, —
кажуць бабы, — на спадніцы!

— Засвяціце вы штанамі, —
кажуць бабы, — паміж намі!

— Ні бяды, ні згубы
цалаваць у губы.

— Ціха і ўвішна
абы толькі выйшла!

* * *

У думках я часта бываю цяпер у Менску,
сустракаюся з беларускімі пісьменнікамі,
гаманю з імі, каб даведацца,
ці яны перабудаваліся.

Я ўсё чакаю, калі мяне запросяць у Менск
прачытаць свае вершы.
Я пераканаў бы менскую публіку —
сваю, мясцовую, і прыезджую —
што на беларускай мове існуе сапраўдная паэзія.

1988.

**РЫГОР КРУШЫНА** *(Казак) нарадзіўся 3 снежня 1907 года на Случчыне. У 1944 годзе пакінуў Бацькаўшчыну, жыў пераважна ў ЗША.*

*Друкаваўся з 1927 года. Выдаў паэтычныя зборнікі "Лебедзь чорная" (1947), "Вячорная лірыка" (1963), "Хвіліна роздуму" (1968), "Вясна ўвосень" (1972), "Дарогі" (1974), "Сны і мары" (1976). Паэт тонкіх лірычных адчуванняў, дакладны ў перадачы псіхічнага стану героя, празрысты па форме. Ён, на нашу думку, па-належнаму не ацэнены як у эміграцыі, так і на радзіме.*

## РОДНЫЯ ГУКІ

Зноў абуджаюцца родныя гукі,
Я не самотны — натхненне са мной.
Думка трывожная ў часе разлукі
Цягнецца звонкай ігранай струной.

Слова, што ўладна і ладна ўплялося
Ў лёс мой, жыццё і пачуцці мае, —
Як на палёх пад вятрамі калоссе,
Бурнаю хваляю сёння ўстае.

Слова спявае. Палае. Чаруе.
Матчын запеў — несуцішны — у ім.
Я пазнаю гэту праўду старую,
Свет, цэлы свет б'ецца ў сэрцы маім.

Хочацца добрае ў песню укласці!
Я перажыў колькі светлых гадзін.
Слова мяне ратавала ў няшчасці
І суцяшала, што я не адзін.

Зноў я праходжу праз творчыя мукі
І зацвітаю вішнёвай вясной.
І абуджаюцца родныя гукі...
Я не самотны, бо слова са мной.

**ЯНКА ЗОЛАК** *(Антон Даніловіч) нарадзіўся 1 лістапада 1912 года ў вёсцы Лучнікі на ўрадлівай на паэтаў Случчыне. Пасля сямігодкі скончыў настаўніцкія курсы ў Рагачове. Працаваў па спецыяльнасці і завочна вучыўся ў Мінскім педвучылішчы, а потым у Аршанскім настаўніцкім інстытуце.*

*Вершы пачаў пісаць у школе, друкаваўся ў перыядычных выданнях, у калектыўным зборніку "Песняры Случчыны".*

*На эміграцыі ў ЗША выдаў двухтомнік. Ён з уключэннем новага перавыдадзены ў Беларусі пад рэдакцыяй вядомага беларускага паэта-песенніка, аўтара кнігі публіцыстыкі "Беларуская Амерыка" Леаніда Пранчака. Кніга амаль адразу разышлася, што сведчыць аб папулярнасці знешне простай, немудрагелістай, але асвячонай унутраным пачуццём паэзіі Янкі Золака.*

## НАША МОВА

***Акраверш***

Наша мова — бярозавік весні,
Аксаміт жаўруковае песні,
Шум гаёў, пушчы грознае голас,
Акавітай успоены колас,
Матак нашых пяшчоты адвеку,
Отмуць-вір у азёрах і рэках,
Васілёк сінявокі у збожжы,
Агняцвет нашай сілы, дар Божы.

**МІХАСЬ КАВЫЛЬ** *(Язэп Лешчанка) нарадзіўся 1 лістапада 1915 года ў вёсцы Попаршаў на Случчыне. Вучыўся ў Грэскай сямігодцы і ў Мінскім педтэхнікуме. Васемнаццацігадовым хлопцам быў арыштаваны "за прыналежнасць да Саюза вызвалення Беларусі" і асуджаны "тройкай" на тры гады лагераў на Далёкім Усходзе. Праз два гады датэрмінова вызвалены "за ўдарную працу і добрыя паводзіны".*

*Жыў у Варожжы, вучыўся на літфаку педінстытута, працаваў настаўнікам.*

*На пачатку вайны мабілізаваны ў Чырвоную Армію, на фронт. У 1942 годзе трапіў у палон, але быў вызвалены. Пасля вайны эмігрыраваў у ЗША, жыве ў горадзе Саўт-Рыверы, шмат гадоў рэдагуе часопіс "Беларуская думка".*

*Пачаў друкавацца ў 1929 годзе пад псеўданімам Язэп Маёвы. Дарэчы, паэт Маёвы — персанаж з славутай "Палескай хронікі" Івана Мележа.*

## ПОМНІШ, МАМА?

Помніш, мама, той горад вялікі?
Белы дом з вартавымі... астрог?
Па пабачанні ты чаравікі
Мне зняла з сваіх змучаных ног...

Вартавы панукаў: "Поскорее!.."
Развіталіся мужна, без слёз.



хваляваліся. Але гаспадыня нас прывітала з такой шчырай, нязмушанай радасцю, што ўсе спасцярогі адпалі ўраз. Яна адразу ж запрасіла за стол. Ну, думаю,ляснуў наш запіс. Але ж, наўздзіў усім, паэтка ўжо перад мікрафонам з такой маляўнічай падрабязнасцю распавядала пра багатае на падзеі і сустрэчы з людзьмі жыццё, нібы ўсё адбывалася не на працягу амаль стагоддзя, а ўчора ці заўчора. Яснасці яе розуму і ўчэпістасці на дэталі можна было толькі пазайздросціць. І пры гэтым ніякай крыўды, ніякай помслівасці ці злосці на тых, хто прычыніўся да драм і трагедый яе жыцця, у тым ліку і самай балючай — смерці сына. Яна была прасветленай і прыгожай у сваёй хрысціянскай даравальнасці, дабрыні і духоўнай відучасці, як прыгожай была перад сваім выраем яшчэ адна цудоўная жанчына ў такім жа сталым веку — Зоська Верас.

А таму, калі пабачыў выдадзеную "Мастацкай літаратурай" кнігу "Яшчэ адна вясна", не мог стрымаць абурэння. Не падборам у ёй твораў — усё перадрукавана з нью-йоркскага выдання — і не ўступным артыкулам (напісаным, як, бадай, усё ў крытыка Алы Сямёнавай, на высокім шчымлівым узроўні), а змешчанымі ў кнізе фотаздымкамі, якія рэжуць вока і гнятуць душу знарочлівай акцэнтацыяй увагі на фізічнай зношанасці чалавека. Чаму такую бяздушнасць і бездухоўнасць праявіў вядомы фотамайстар, куды глядзелі літаратурныя і мастацкія рэдактары кнігі (іх па два), сказаць цяжка, зразумець — немагчыма.

Асабліва шчырыя сяброўскія сувязі завязаліся ў мяне з адным са старэйшых паэтаў беларускай Амерыкі, пра якога згадваў на пачатку нататкаў, — Янкам Золакам. Быў на святкаванні яго васьмідзесятых угодкаў у родных яму Лучніках. З нашых шматлікіх сустрэч і паездак згадаю толькі адзін эпізод. Назаўтра пасля юбілейнай вечарыны мы, жаваронкі, рана абудзіліся і, каб крыху пажвавець у рухах і думках, вырашылі, як кажуць, узяць па каліве. Налілі, кульнулі… І раптам мне дух заняло — сяджу, лыпаю вачыма, не могучы дыхнуць. У позірку паэта здзіўленне. Потым ён крактануў, удыхнуў на поўныя грудзі і, гарэзна бліскануўшы позіркам, прамовіў:

— Ай, братачка, дык нейкая ж гарэліца надта дзёрзкая! Як у рай трапіў.

Памералі градусы. Чысты спірт! А як ён трапіў у звычайную стандартную бутэльку на славутым мінскім "Крышталі" — розумам не асягнеш. Але важна не тое, здзівіла, як гэты нечаканы "падарунак лёсу" пракаўтнуў чалавек у свае восемдзесят, ды яшчэ і з жартам?!

Дай, Божа, вам здароўя, шаноўны паэт Янка Золак, дарагі дзядзька Антоне! Каб вы і надалей моцна трымаліся на зямлі, а будзе хапаць мацнаты наведаць Бацькаўшчыну — тут вам заўжды рады!

Можна было б шмат расказаць цікавага і пра гасцяванне ў Міхася Сяднёва, чалавека надзвычай самабытнага не толькі ў творчасці, але і ў паўсядзённым жыцці, пра гутаркі з Міхасём Кавылём.

А вось Алеся Салаўя я ўжо жывым не застаў, толькі пабыў на магіле, сустрэўся з людзьмі, якія яго ведалі. Быў загарэўся выдаць творы, але ініцыятыву перахапіла "Мастацкая літаратура", якая запланавала кнігу Алеся Салаўя. Што ж, як кажуць, на здароўе. Ды праходзіць час, а выбранае гэтага выдатнага паэта так на радзіме і не з'яўляецца. Увогуле заглохла выданне распачатай серыі "Галасы беларускага замежжа".

То няхай праз нашу газету чытач далучыцца да гэтых галасоў, маленькай, але істотнай долі з напісанага, што дапасуецца да тэмы "Мова — душа народа".

А назаўтра туды, дзе не грэе
Ўлетку сонца, цягнік нас павёз…

Шмат нас тут і малых, і вялікіх,
Шмат хто холад падужаць не змог…
І, калі б не твае чаравікі,
Я таксама… застаўся б без ног…

Вартавыя крычаць: "Поскорее!.."
Пераношу ўсё мужна, без слёз,
Ой, калі ж мяне сонца сагрэе
Ў тым краі, дзе радзіўся і рос?!

*1934 г. Сяданлаг. Далёкі Усход.*

**УЛАДЗІМІР ДУДЗІЦКІ** *(Гуцька) нарадзіўся 8 студзеня 1911 года на Чэрвеньшчыне. Вучыўся ў Мінскім педтэхнікуме. У 1933 годзе быў арыштаваны, адбыў тры гады ў лагерах Новасібірска, Марыінска і год высылкі ў Казахстане.*

*Пасля вайны нядоўга жыў у ЗША, потым — у Венесуэле.*

## НЯПОСЛУХУ ДЗІВАЦКАГА САКРЭТ

Патоляй свет не лашчыў нас ніколі,
і прыкрым быў чужы ля хаты след.
"Ля родных стрэх шукайце, дзеці, волі", —
пакінуты вучыў нас запавет.

А мы пайшлі-такі у белы свет
пад націскам нясцерпнай гідкай голі…
Як гнеў раба, сціскаецца ад болі
няпослуху дзівацкага сакрэт.

І ганьбіцца зямлі ружовы цвет,
знішчаецца на зыбкіх плынях золі…
Які ж пакінем дзецям запавет,
пакутнікі зняверанымя долі?

Паўторым нешанаваны, а мо…
…Смяротнае зямлі чужой ярмо.

**УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ** *нарадзіўся ў вёсцы Краснадворцы на Случчыне 27 лютага 1914 года. Скончыў Старобінскую сямігодку, потым педагагічныя курсы ў Слуцку, настаўнічаў. Паступіў у 1933 годзе ў Мінскі педагагічны інстытут, але ў 1936-м быў арыштаваны і высланы на Калыму.*

*У 1940 годзе У. Клішэвіча разам з іншымі былымі студэнтамі прывезлі ў Мінск на перасуд, але пачалася вайна, і арыштант апынуўся на волі. Працаваў у "Газеце Случчыны", склаў і выдаў зборнік паэзіі "Песняры Случчыны".*

*Эмігрыраваў, жыў у ЗША. Выдаў зборнік вершаў "Далячынь" (Саўт-Рывер, 1964), паэму "Васіль Каліна" (Лондан, 1965).*

*Быў першым, а ва ўмовах "халоднай вайны" і адзіным беларускім паэтам, які наведаў Беларусь. У 1973 годзе ў бібліятэчцы газеты "Голас Радзімы" выйшаў зборнік паэзіі "Сняцца сны мне залатыя".*

*Памёр пры загадкавых абставінах у 1978 годзе.*

## СМУТАК ПА РАДЗІМЕ

Эх ты, песня, чароўная песня,
Без Радзімы табе не ўваскрэснуць.
Не бурліць мне вясёлай крыніцай —
Толькі сумам магу падзяліцца.

Людзі радасць на сум не мяняюць.
А што зробіш, як доля такая?
Азіраюся неяк нясмела —
Як ты, песня мая, пасівела.

Грукаціш ты, мой лёс безгалосы,
Як па грэблі драўлянай калёсы.
Душу лечаць адны успаміны…
Вось што значыць жыццё без Радзімы.

**ВІНЦУК АДВАЖНЫ** *(Язэп Германовіч) нарадзіўся 4 сакавіка 1890 года ў Гальшанах. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1913), служыў ксяндзом на Дзісеншчыне і Слонімшчыне. Спазнаў здзек і ганенні ад польскіх уладаў за сваю беларускасць. Быў вымушаны выехаць у Харбін. У 1948 годзе арыштаваны кітайскай міліцыяй і перададзены савецкім уладам. Асуджаны на 25 гадоў лагераў. Праз сем гадоў быў выпушчаны за мяжу. Жыў у Італіі, Англіі. Памёр 26 снежня 1978 года.*

## САБАЧАЯ МОВА

*(Байка)*

Даўно было (гісторыя дурная!),
А можа, хто й не знае?

•

Запанавалі цюцькі ў лесе,
Дык у грамадскім інтарэсе
На з'ездзе кажуць:
— Нам здаецца,
Што трудна ў лесе зразумецца,
Бо той мычыць,
А той пішчыць…

— Пачнём брахаць сабачай мовай —
Культурнай, ганаровай!

Давай звяры суцэльным строем
І пад сабачым там канвоем —
Хто з радасці, а хто з бяды —
Брахаць і выць на ўсе лады!

Цвярозы хто, а хто ў пахмеллі,
На пахаванні, на вяселлі —
Ад ранняе пасцелі —
Брахалі — аж пацелі!

Хто не брахаў, сабакі-камандзеры
Лупілі па каўнеры:
Закон сабачай тройкі
Рашучы быў і бойкі.

Паўстаў кірмаш смаргонскі,
Гармідар бабілонскі —
Ажно лясная ўся гармонія
Зышла на какафонію!

Датуль сабакі ўсіх правакавалі,
Пакуль саміх з лясоў прагналі!..

•

Чужая мова, не іначай,
Нам — злосны брэх сабачы,
Калі нахабная апека
Муштруе чалавека!

**СЦЕЖКАМІ РАДЗІМЫ**





У 1892 годзе вядомы рускі мастак Ілья Рэпін набыў непадалёку ад Віцебска на беразе Заходняй Дзвіны маёнтак Здраўнева. Тут многія гады жыла сям'я мастака.

У Здраўневе Ілья Яфімавіч напісаў больш за 40 карцін і малюнкаў: "Восеньскі букет", "Беларус", "Дуэль", "Месячная ноч" і іншыя. Да здраўнеўскага перыяду жыцця адносяцца іконы: "Вобраз Хрыста", "Вобраз Багамаці". Пасля ад'езду І. Рэпіна з Беларусі тут жылі яго дзеці і ўнукі. Здраўнева — радзіма чатырох праўнукаў мастака.

У 1988 годзе тут быў адкрыты музей-сядзіба І. Рэпіна "Здраўнева". Мноства прыхільнікаў яго творчасці наведалі гэтую цудоўную мясціну. У 1995 годзе ў сядзібе адбыўся пажар і дом згарэў. Сёння на яго месцы ўзводзіцца новы будынак.

Сотні гасцей і цяпер прыязджаюць у Здраўнева, каб пабачыць тыя мясціны, што натхнілі жывапісца на стварэнне карцін, якія ўвайшлі ў скарбніцу сусветнай культуры.

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае сёння сядзіба Рэпіна ў Здраўневе; помнік І. Рэпіну ў Зраўневе; месцы, якія натхнялі Рэпіна.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**



**КНІГАЗБОР**

# ЗАБЫЦЦЮ НЕ ПАДЛЯГАЕ

У Пінску на базе музея Беларускага Палесся прайшлі VIII Гарэцкія чытанні. Удзельнікі прыехалі з Мінска, Брэста, Магілёва, іншых нашых гарадоў, а таксама Санкт-Пецярбурга, Масквы, Смаленска. Сярод іх быў і пакуль малавядомы шырокаму колу нашых чытачоў член Саюза расійскіх пісьменнікаў са Смаленска Мікалай Ількевіч, удумлівы, праўдзівы даследчык беларускай літаратуры, яе гісторыі.

І вось цяпер з Расіі да нас прыйшлі тры кнігі М. Ількевіча. Дзве з іх — "Душа дваілася" і "Адам Бабарэка" адпаведна прысвечаны М. Гарэцкаму і А. Бабарэку. Трэцяя — "Акадэмік Гаўрыіл Гарэцкі: першае сутыкненне з ГПУ" — брату класіка беларускай літаратуры, нашаму вучонаму з сусветным імем (геолаг, географ, эканаміст, дэмограф) Гаўрыілу Гарэцкаму.

Пасля прачытання гэтых работ разумееш, якую вялікую даследчую і пошукавую работу правёў аўтар, каб данесці людзям і ў Расіі, і ў Беларусі праўду аб літаратарах і вучоных, аб іх творчасці, часе, у якім яны жылі і тварылі. Гэтыя дакументальныя кнігі па-сапраўднаму бясцэнныя.

А. Бабарэка шырокаму колу чытачоў менш вядомы, чым М. Гарэцкі. Нарадзіўся 19 верасня 1899 года ў вёсцы Слабада-Кучынка цяперашняга Капыльскага раёна. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў падполля на Случчыне, удзельнік партызанскага руху ў час акупацыі Беларусі польскімі войскамі. Адзін з кіраўнікоў і арганізатараў літаратурна-мастацкіх аб'яднанняў 20-х гадоў "Маладняк" і "Узвышша", што далі цэлую плеяду беларускіх пісьменнікаў. Многія з іх, як і сам А. Бабарэка, былі рэпрэсіраваны. Кніга М. Ількевіча і расказвае, грунтуючыся на фактычным матэрыяле, сярод якога і пратаколы допытаў, аб тым, як "вялі" да апошняй мяжы забойцы і вандалы духоўнасці ўсіх народаў СССР, у тым ліку і беларускага, Адама Бабарэку: пісьменніка, літаратурнага крытыка, педагога, выдаўца.

Адзначу, што ў рабоце і над гэтай кнігай, і над кнігай пра акадэміка Гаўрыіла Гарэцкага Мікалай Ількевіч шырока выкарыстаў, як адзначана ў анатацыі, дакументы "з архіваў Федэральнай службы бяспекі Расіі, іншых ведамасных і асабістых архіваў…" Ён, напрыклад, поўнасцю, з подпісамі, прозвішчамі тых, хто вёў і фальсіфікаваў справы, публікуе пратаколы допытаў, іншыя дакументы.

Прадбачу пытанне: ці варта называць імёны фальсіфікатараў? Час, маўляў, быў такі, ён вымушаў…

М. Ількевіч, як разумею з прачытанага, лічыць, што неабходна. Людзі павінны заставацца людзьмі. У любых сітуацыях.

**Уладзімір САЛАМАХА.**

ЗАХАПЛЕННІ

# НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ — ВАКОЛ СВЕТУ



Па дарозе ў Нотынгем.

**Нядаўна ў рэдакцыю патэлефанавалі з таварыства "Радзіма": да вас зойдзе цікавы чалавек, калі ласка, выслухайце яго і дапамажыце. Так мы пазнаёміліся з Уладзімірам Касцюковічам, незвычайным вандроўнікам, апантаным ідэяй аб'ехаць вакол свету на веласіпедзе. Уладзімір шмат расказваў пра свае падарожжы і папрасіў дазволу звярнуцца да чытачоў газеты. Мы прадастаўлялі яму такую магчымасць.**


Пад надзейнай аховай Брытанскага льва.

Я, Касцюковіч Уладзімір, грамадзянін Рэспублікі Беларусь, звяртаюся да беларусаў свету з просьбай садзейнічаць здзяйсненню адзіночнага веласіпеднага рэйда Міру вакол свету.

Тры гады майго дзяцінства прайшлі на акупіраванай фашыстамі Беларусі. Я нарадзіўся і выжыў у 1941 годзе дзякуючы нязмерным высілкам і намаганням маёй маці. Але другая сусветная вайна пазбавіла мяне маці (яна памерла ў 45-м годзе) і старэйшага брата, які загінуў у 1943-м каля ўкраінскага горада Харкава. Пры абароне Магілёва ў 1941 годзе быў паранены мой бацька.

Зараз я пенсіянер, але яшчэ працую на Мінскім трактарным заводзе. Маю жонку і траіх дзяцей ва ўзросце ад 18 да 22 гадоў.

"Знаёмы" з веласіпедам больш за 40 гадоў. Педалюю круглы год, нават зімой. Лічу, што здаровы лад жыцця і стан здароўя дазволяць здзейсніць маю мару.

Першае маё падарожжа на веласіпедзе адбылося яшчэ ў школьныя гады. Яго маршрут Гродна — Скідзель — Эйсмонты. Тады ж падарожнічаў па Літве. З апошніх паездак можна прыгадаць падарожжа па Польшчы. У 1995 годзе на простым дарожным веласіпедзе даехаў да французскага горада Кале і назад. У наступным годзе асіліў маршрут Мінск — Нотынгем — Мінск працягласцю 4 600 кіламетраў.

Першы еўрапейскі этап рэйда Міру планую пачаць вясной 2000 года. Ад вас, беларусы свету, я з надзеяй чакаю візавай падтрымкі з розных краін Еўропы і свету. Неабходны запрашэнні на маё імя з прапановай наведаць краіну ў якасці велатурыста. У час кругасветкі мару пабываць у сталіцах краін свету і гарадах-пабрацімах Мінска: Лодзі (Польшча), Ліёне (Францыя), Дэтройце (ЗША), Мэрыдзе (Мексіка), Сэндаі (Японія).

Адкажу пісьмова на папярэднія прапановы, каб узгадніць канкрэтныя тэрміны знаходжання ў кожнай краіне.

**Мой адрас: Republic of Belarus, 220047,**
**Minsk, Nesterova, 72—205.**
**Kostiukovich Vladimir.**
**Тэлефон: 017 243-05-27.**

**Для тых, хто жадае і можа аказаць фінансавую падтрымку рэйду Міру, змяшчаю свае рэквізіты.**

**Банк-карэспандэнт**
**Bankers Trust Company, New York**
**Кар-рахунак № 04-095-692**
**SWIFT-BKTR US 33**
**Банк-атрымальнік**
**Yoint-Stock Saving Bank "Belarusbank" Branch 503**
**кар/рахунак**
**№ 6111000002033**
**SWIFT-AKBB BY 2X**

**Атрымальнік**
**Бягучы рахунак**
**№ 8400010000079**
**Касцюковіч Уладзімір**

З павагай

**Уладзімір КАСЦЮКОВІЧ.**


**Хуткую дапамогу Уладзіміру КАСЦЮКОВІЧУ аказвае англійскі сябар Грэхэм ЛЭНСДЭЛ.**

КОНКУРСЫ



Непрыгожых жанчын не бывае, у кожнай абавязкова ёсць нешта сваё, чароўна-адметнае. Вось толькі часцяком гэтая чароўнасць хаваецца за заслону стомленасці, неўладкаванасці, матэрыяльнай незабяспечанасці. І тады на падыум жыцця замест каралевы падымаецца змораная істота, абвешаная сумкамі, дзецьмі і бясконцымі невырашальнымі праблемамі. Ёй бы — невялікі адпачынак, новую сукенку, прыгожую прычоску, манікюр... І тады наша Папялушка ператворыцца ў найпрыгажэйшую прынцэсу. А як прыемна бачыць такія шчаслівыя жаночыя твары, як, напрыклад, у Тамары ШУКАЙЛА з Брэста. Яна заслужыла свой радасны настрой — стала пераможцай на конкурсе "Бездакорны манікюр", які нядаўна прайшоў у горадзе на Бугу.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

## КРЫЖАВАНКА

### СЛОВЫ ПА НАПРАМКУ «А»

1. Перыядычны друк (газеты, часопісы). 2. Чарцёж зямной паверхні або зорнага неба. 3. Разнавіднасць каменнага вугалю, які лёгка паддаецца апрацоўцы і паліроўцы і выкарыстоўваецца для дробных вырабаў (пацерак, муштукоў). 4. Спецыяльная вайсковая група. 5. Незвычайны, недарэчны выпадак. 7. Птушка (звычайна вялікая). 8. Аўтамат, які выконвае дзеянні, падобныя да дзеянняў чалавека. 9. Дарога з дзвюх паралельных рэек на чыгунцы. 10. Накладныя валасы. 12. Сырое надвор'е з дажджом і мокрым снегам. 13. Паходная ваенная ці вучнёўская сумка для нашэння за плячыма. 14. Спыненне руху там, дзе сабралася вялікая колькасць людзей, машын. 15. Памяшканне для захоўвання тавараў, матэрыялаў. 16. У царскай Расіі вышэйшая судова-адміністрацыйная ўстанова. 17. Невысокі бар'ер, які прыкрывае ад гледачоў прыборы для асвятлення сцэны, а таксама асвятляльная апаратура, якая размяшчаецца за такім бар'ерам. 19. Вага тавару з упакоўкай. 20. У народных гаворках: рабрына. 21. Парадак, паслядоўнасць. 22. Зямное ўмацаванне: паглыбленне ў зямлі з брустверам для стральбы, хавання ад куль і снарадаў. 23. Злучэнне хімічнага элемента з кіслародам. 24. Доўгая верхняя сялянская адзежына з тоўстага саматканага сукна. 26. Спектакль з танцаў і мімічных рухаў, якія суправаджаюцца музыкай. 27. Сотая частка якой-небудзь адзінкі. 28. Рэчы, упакаваныя для перавозкі поездам, самалётам, параходам.

### СЛОВЫ ПА НАПРАМКУ «Б»

1. Установа для перасылкі пісем, пасылак, газет. 2. Тоўстая моцная вяроўка з валокнаў або дроту. 3. Некалькі чалавек, якія сабраліся разам. 4. Зборнік табліц, геаграфічных карт. 5. Кукурузны пачатак. 6. Месца, па якім сходзяць. 8. Узараная глеба, узаранае поле. 9. Багаты селянін-уласнік, які эксплуатуе беднякоў. 10. Урачысты агляд (войск, спартыўных і іншых арганізацый). 11. Няпраўда, выдумка, хлусня. 12. Той, хто сее. 13. Майстар, які займаецца вырабам раменнай вупражы. 15. Момант пачатку спартыўных спаборніцтваў. 16. Дробна нарэзаная салома на корм жывёле. 17. Рухомая (якая верціцца) састаўная частка электрычнага генератара, турбіны. 18. Невялікі іншасказальны твор павучальнага характару, звычайна ў вершаванай форме. 19. Пласкадоннае рачное судна без палубы для перавозкі грузаў. 20. Аднаклетачныя зародкі ці мікраскапічныя зачаткі некаторых раслін або прасцейшых арганізмаў. 22. Спецыяльная вайсковая група. 23. Падатак грашамі або прадуктамі, які плацілі прыгонныя сяляне памешчыку. 24. Першая састаўная частка слоў, якая па значэнню адпавядае слову агранамічны. 25. Надзейная апора, цвярдыня, абарона. 26. Дошчачка з надпісам, што прывязваецца да багажу, тавараў для абазначэння вагі, нумара. 27. Падвяленая прасаваная трава, якая зберагаецца ў сховішчах на корм жывёле.




**Склала Ірына БЕКІШ.**

АНЕКДОТЫ

Вулічнае здарэнне. Міліцыянер:
— Грамадзяне! Хто сведка?
Бабка:
— Я! А што здарылася?

* * *

— Сведка, вы ведаеце падсуднага?
— Так, вельмі добра ведаю! Мы з ім доўгі час працавалі ў банку.
— Калі гэта было?
— Даты не памятаю, але справа была на досвітку, прыкладна ў тры гадзіны раніцы...

ПАДПІСКА

## ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!

Працягваецца падпіска на газету "Голас Радзімы" ў Літве, Кыргызстане, Казахстане, на Украіне. Наш падпісны індэкс на Беларусі **63854**.

З Расіі магчымы паштовы перавод на адрас "Голасу Радзімы" з паметкай "за падпіску". З іншых краін аплату можна перавесці на валютны рахунак:

**3012202935017, Славянскае аддзяленне Беларускага бізнесбанка, код 834, абавязкова з паметкай: "Для рэдакцыі газеты "Голас Радзімы".**


«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1693.
Падпісана да друку 13.09.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.